беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 37 (75)
16 сьнежня
1996 г.

выходзіць у панядзелкі

# СЁНЬНЯ Ў ВІЦЕБСКУ ПАЧЫНАЕЦЦА СУД НАД ПАЭТАМ СЛАВАМІРАМ АДАМОВІЧАМ

***

*Каляды. Посная Куцьця.*
*Ня піша пісьмаў арганістка.*
*Вісіць над установай сьцяг*
*усенароднага фашыста.*

*У пераходах прадаюць*
*падпольную літаратуру,*
*якую ў Вільні выдаюць*
*мне невядомыя структуры.*

*Зіма крыху. Сьняжок ледзь-ледзь.*
*Бамжы акупавалі крамы,*
*дзе можна целы сваё грэць,*
*наколкі сінія і шрамы.*

*Зіма! Вярнулася, дальбог!*
*Іду з прагляду «Мадэрністаў»,*
*і кліча штосьці за парог,*
*у запарожжа рэканкісты.*

Славамір Адамовіч
*Каляды, 1995*



**Убей Адамовича!**

**Убей его, возомнившего**
**себя поэтом, спасителем.**
**Поэты — всегда посмертные,**
**доля спасителя — крест.**
**Птицы поют в клетке.**
**Убей, раз уж так ему хочется**
**называться пророком, синоптиком**
**и змагаром за нацию.**

**Убей поэтишку, который**
**достал своим существованием,**
**катит бочки на президента,**
**батоны крошит на КГБ.**
**Птицы поют в клетке...**
**Ведь что он знает про ненависть,**
**и может ли его ненависть к тебе**
**сравниться с твоей к нему?!**

**Убей, не возись с мизером,**
**достаточно канителились:**
**камера для опущенных —**
**на зоне — верный конец.**
**Птицы поют в клетке**
**особенно трогательно,**
**если им пережечь крылышко,**
**перебить ножку или ниточкой**
**перевязать клюв.**

**Убей, унизь его мать и мову, бля.**
**Унизь его идеалишки:**
**все эти правды, родины —**
**стремленья к тому, чего нет.**
**Птицы поют в клетке.**
**Направь на него своих следователей,**
**прокуроров, судей, надсмотрщиков,**
**братву, которой по кайфу**
**поставить его к ногтю.**

**Пусть раздушат, размажут гниду**
**с представлениями о порядочности**
**по шершавой стене карцера,**
**как интеллигентскую вошь!**
**Птицы поют в клетке,**
**поэты — всегда посмертные.**
**Пусть каждый займется делом.**
**Убей, президент!**

(Брат)

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# ЛІСТЫ З-ЗА КРАТАЎ

*Справа Адамовіча, чым бы яна ня скончылася, абрастаючы ўсё новымі й новымі дэталямі, ужо стала нацыянальным сымбалем. Сымбалем бездапаможнасьці грамадзтва перад непахісным у сваёй вузкалобасьці рэжымам. Сымбалем, па якім пазнаюць Беларусь у Эўропе, Расеі, Амэрыцы. Сымбалем, па якім мы будзем згадваць сёньняшнюю эпоху. Эпоху ганьбы і цемрашальства. Эпоху, калі навокал вынішчаецца ўсё сумленнае, шчырае, разумнае ў чалавеку. За Лукашэнкам нацыя «мінусуе». Усе лепшыя людзі: спэцыялісты, прафэсура, паэты пакідаюць пасады, затрымваюцца міліцыяй, апынаюцца ў турмах, а на іх месцы прыходзіць «братва», для якой не існуе маралі і спагады. Нацыя «мінусуе», каб дайсьці да апошняе рысы, пасьля якой усё больш неверагодным выглядае ўздым.*

*Славамір Адамовіч патрапіў у вязьніцу КГБ у красавіку. Супраць яго была ўзбуджаная крымінальная справа паводле трох артыкулаў КК: за распаўсюджваньне заклікаў да зьдзяйсьненьня тэрарыстычнага акту (арт. 67, ч.1), за спробу пераходу дзяржаўнае мяжы (арт. 80, ч. 1), за нашэньне халоднае зброі (арт. 213, ч. 3).*

*За час сьледзтва ніхто не давёў, што Адамовіч вінаваты ў гэтых правапарушэньнях. Застаўся толькі верш «Убей президента»... «Спэцыялісты» з КГБ ніяк ня могуць даць сабе зь ім рады. Здагадваючыся пра дух твору, яны ніяк ня могуць зьляпіць зь яго справу аб падбухторваньні да гвалтоўнае зьмены ўлады. Экспэртызы найбуйнейшых літаратуразнаўцаў краіны, якія разам сьцьвярджаюць, што ў вершы няма ніякага крыміналу, упарта ігнаруюцца «органамі». Зрэшты, пра справядлівае рашэньне нават няма гутаркі. Нахабна ігнаруючы заканадаўства (ёсьць у каго браць прыклад), сьледчыя з КГБ шматкроць парушылі працэсуальны кодэкс. Любы з артыкулаў, якія прыпісваюцца Адамовічу, прадугледжвае адміністратыўнае пакараньне (умоўнае пазбаўленьне волі, штраф). Аднак рэжым абраў самую жорсткую меру стрыманьня, нават без суда.*

*У знак пратэсту супраць абсурднага абвінавачаньня, інфармацыйнае блякады і беззаконнага сьледзтва, 5 чэрвеня Славамір Адамовіч абвясьціў сухую галадоўку. З садысцкай цікаўнасьцю «чэкісты» назіралі, як канае чалавек, не паведамляючы пра тое нават ягонай маці. І толькі на восьмыя суткі, калі паэт знаходзіўся ўжо ў крытычным стане, зь ім дазволілі сустрэцца рэдактару «Нашае Нівы». Цяжкахворага Адамовіча перавезьлі ў шпіталь КГБ, дзе нават лежачы пад кропельніцай, ён быў прыкаваны да ложка кайданамі.*

*Але на гэтым пакуты паэта ня скончыліся. Пацягнулася доўгая чарада зьдзекаў і зь яго, і зь ягонай маці. Забараняліся сустрэчы, перадачы, мэдыкамэнты... Тым часам сьледзтва расьцягнулася на бясконца доўгія восем месяцаў. Ніякія просьбы, звароты, заклікі з розных краёў сьвету не дапамаглі. Чым больш горача розныя людзі прасілі, патрабавалі, умольвалі ўладу, тым большую асалоду ўлада атрымлівала ад зьдзеку з паэта.*

*Сёньня ў Віцебску адбываецца суд над беларускім паэтам Славамірам Адамовічам. Чым бы ня скончылася гэтая справа, рэжым ужо назаўжды запляміў сябе нянавісьцю і жорсткасьцю да лепшых сыноў Беларусі.*

*Сёньня мы публікуем матэрыялы, якія рэдакцыі ўдалося атрымаць ад С.Адамовіча ў апошні перад выхадам нумару момант.*

### Сябрам, суайчыньнікам, якія сёньня супрацьстаяць рэжыму

Вечар, 15-га лістапада. 76 гадоў назад нашыя дзяды ўзьнялі на Случчыне паўстаньне супраць бальшавіцкага прыгнёту. 14-га лістапада 1996 году прэзыдэнцкая «СБ» піша: «1920 г., 14 ноября — 28 декабря. Антисоветский эсеро-националистический мятеж в Слуцком уезде». Гэта піша выданьне антыбеларускага рэжыму, г.зн. што нашае супрацьстаяньне генацыду працягваецца. У імя каханьня, радасьці свабоды! У імя сьветлай памяці продкаў і годнага жыцьця нашчадкаў мы ахвяруем нашым сёньняшнім, днямі нашага сёньняшняга жыцьця...

Каторы месяц застаюся без нармальнай мэдычнай дапамогі. Праз галадоўку нажыў востры гастрыт. Трэці месяц баляць зубы, але вылечыць таксама праблематычна — няма навакаіну, калі верыць доктару. Абвінаваўчага заключэньня яшчэ не атрымаў. З адміністрацыяй на нажах (патрабую ад вертухаяў людзкіх да сябе адносінаў). За жыцьцё па законе атрымаў пакараньне —пазбавілі перадачаў на месяц.

Дні бягуць — нашыя дні нашага жыцьця. Выжывем! Выйдзем! Будзем разам і на НАШАЙ зямлі! Верыць і змагацца, тады і будзе неабходны вынік.

Чакаем амністыі і рэфэрэндуму, гартуем волю й сьпелім пачуцьцё *нянавісьці. І па 48-м канале віцебскага тэлебачаньня прагна ловім інфармацыю пра падзеі на волі. З газэтаў заходзяць «СБ» і «ЗЮ», рэдка — «Народная газета».

18 лістапада. Было спатканьне з маці. Паказала маю чацьвертую кніжку вершаў — «Каханьне пад акупацыяй». Перадаць не дазволілі. Да чаго ж дзікая сытуацыя — не магу мець пры сабе ўласную кніжку вершаў! І гэта ў эўрапейскай краіне, у канцы 20-га стагодзьдзя!..

Аднаго шкада — не парупіліся мае любімыя жанчыны пакінуць мне нашчадка. Няхай жа застаюцца мае Словы і мае Дрэвы — тут, на зямлі продкаў...

Дзякуй, сябры! Сустрэнемся 25-га ў судзе. Dixi!

**Ваш Славамір**

P.S. 27.11.96 году. Пяць сутак адсядзеў у карцары, адкуль мяне й вывозілі на суд. 25-га адбылося першае паседжаньне працэсу па справе №182. Усё цьмяна і невыразна. Судзьдзя неяк баязьліва коўтае словы, баіцца гаварыць на поўны голас. Тое ж і пракурор. Здымаць на фотавідэатэхніку ў залі суда журналістам не дазволілі. Буду чакаць, пакуль ня зьявіцца адвакат Паганяйла, каб выступіць абаронцам маіх інтарэсаў у названай справе.

**S.A.**

### Як зьнішчалі палескую зорку

Акт

*г. Минск 17 июня 1996 года*

Комиссия в составе заместителя начальника СО КГБ РБ майора юстиции Фалюка В.В., следователя по ОВД того же отдела капитана юстиции Сокольчика А.П. и следователя этого же отдела старшего лейтенанта юстиции Байкова А.А. составила настоящий акт о том, что сего числа в специальном помещении, оборудованном печью, произведено уничтожение путём сожжения изъятых в ходе обыска, произведённого 22 марта 1996 года по месту жительства Адамовича С.Г., — нарукавной повязки с вышитым стилизованным изображением на чёрном фоне восьмиконечной звезды красного цвета, помещённой в восьмиугольник белого цвета; (...)

— флага, сшитого из двух чёрных и расположенной между ними красной продольных полос, по внешней вертикальной поверхности флага пришита бахрома из материала жёлтого цвета.

В соответствии со ст. 167(2) Ко АП указанные предметы изъяты из гражданского обращения и не имеют значения для дела.

*Заместитель начальника СО КГБ РБ*
*майор юстиции (подпіс) В.В.Фалюк*
*Следователь по ОВД КГБ РБ*
*капитан юстиции (подпіс) А.П.Сокольчик*
*Следователь Со КГБ РБ*
*ст. лейтенант (подпіс) А.А.Байков*

### Лірыка строгага рэжыму

* * *

Яркаю бліскавіцаю распалавініла ты днямі мой сон. Вольны дух Случчына мая, беларуска, крывіцкая доля! Завязаўся аднойчы вузельчык — цяпер не парваць. Ды і нельга — так трэба Радзіме. Такая планіда, скрыжалі.



*На зьдымку: маці Славаміра Адамовіча на пікеце ў Менску 10 сьнежня.*

занесла ў казэматы Віцебскае цэнтралі, знайшоўшы мяне на правым баку — цяжка драмаў я. Мышыным гарошкам абвіла ты мяне і расцалавала — не пасьпеў я апамятацца. Зусім як тады — 27-га ліпеня, зусім як тады — на вясельлі ў нашай знаёмай... Ты пакінула белыя падушкі свайго сталічнага ложка, каб убачыць мяне на другім паверсе жалезных нараў камэры шэсьць чатыры строгага рэжыму. Ты зьявілася, каб разам са мною адзначыць дзесяцігодзьдзе нашага знаёмства і восем месяцаў майго ўвязьненьня. Ты нагадала мне, што кветку каханьня нельга стаптаць, калі расьце яна зь нязводнага духу волі да прыгажосьці й гармоніі, што ёсьць, бадай, адно й тое ж. Ты прыйшла, каб даць мне новае сілы. І ты зрабіла гэта. Вярніся цяпер да твайго дзіцяці — яму страшна бяз мамы. Пагушкай яго, як гушкае пушчу цёплы вецер поўдня, як лёгка тарнуе чараты верхаводка пасьля майскай залевы... Няхай маленькая ніколі ня ўведае, як гэта — гушкацца ў вузачку крытай турмы — "крыткі".

Сьпі, каханьне маё. Сьцеражы, сон дачкі, пра якую так мару.

* * *

... І ты была са мною. І цябе я люблю любовямі акіянічнымі. І пішу пра цябе пісьмом Сакрата Яновіча, які па той бок заходняй мяжы цепліць сваю беларускую хату, каб ня ўстыць ад сьцюжы ўсходняй...

Пэўна, мала любіў я цябе на свабодзе — даруй! Пэўна, дзёрзкі быў я бязь меры з табой — на калені ўпадаю! Пэўна, трэба было мне зрабіць гэны крок на твой бераг — ня здолеў ступіць, не патрапіў — шкадую! Але жарсьць наша, быццам бурштын Герадотава мора — глыбока! І ня зьнішчыць яе — кветкай Волі яна прарастае татальна! Веру, ведаю — ты мяне сьніш, ты жадаеш... А калі ты ня сьніш, — ты ня сьпіш, за дачкой назіраеш. Семяжанка мая... Моцна будзем і многа, і шчыра, і вечна кахаць!..

* * *

А сьмерці няма. І сьценаў каменных таксама. Тым яны не заслона, хто выбраны ў носьбіты духу. Бываюць, аднак, адступленьні. Тады мы губляем самых лепшых, тады мы ўгрызаемся ў грунт... Вось і я не зьбярог ні тваю вышыванку, ні нож твой: вораг зьнішчыў агнём вышываньне, а нож з аслабелай рукі ліхаманкава вырваў... Вораг цешыцца думкай ілжывай, што ён перамог...

Будзь сяброўкай дачцы. Яна вартая добрых пачуцьцяў. Не мадэлька, пустышка, бірубалка пры камэрсанце — дзяўчына крывіцкага роду. Засьцялі ёй пасьцелю дзявочую, хай прысьняцца ёй сны залатыя і вольны ад набрыдзі Край.

* * *

Ружачкі — ты думаеш, гэта маленькія ружы, кветкі, якія прыносяць на спатканьне зь дзяўчынаю. Ах, малады чалавек, не пра кветкі я. Мая ружачка — штучка капрызьлівая, яна ніколі ня вяне. Вяне жыцьцё, трапляючы на ейныя вострыя пялёсткі. Мая ружа — мая зброя самаахововы. Вандруе са мною з камэры ў камэру. Халоднае зялёнае шкло, бутэлечка з-пад мікстуры, адбітае дно. Востра. Дастаткова, каб вывесьці са строю ворага. «Ружачка» — зброя паэтаў. Можа адсюль і «ружжо», «акружжа»? І, можа, першымі салдатамі былі паэты?

Я даю маім «ружам» імёны маіх жанчын.

***

Дзьве кветкі раскошныя раскашуюць у душы маёй — кветка Любові і кветка Нянавісьці. Што рабіць — вельмі ўжо яны разбуялі, і нельга вырваць другую, каб не зашкодзіць першай. Кветка Любові — для ўсіх, для жывога навокал, як-то: кузуркі, трытоны, суркі, кажаны, матылі, коні звычайныя, коткі цяжарныя, векшы, рысі пушчанскія, совы, зубры, жураўы; людзі разумныя, людзі звычайныя ў горы, з радасьцю, у суме, жанчыны, мужчыны, «зэка», людзі амону, спэцназу, і людзі прыкольныя, простыя людзі і людзі зь вярхоў ЦэКэКа... Кветка Нянавісьці — толькі для ворагаў Краю! Хай жа ня сьпіць пракурор: сынэдрыён!

***

Рома! Дзе ты, агу!.. Рома, ты памятаеш 13-га жніўня 96-га? Што ж ты мне не расказаў пра сваё нялёгкае жыцьцё, Рома — опэр СІЗО-2 г. Віцебска? Можа б я табе чым дапамог, Рома Лазуркін. Я выкурыў твае тры цыгарэты, а ты пасадзіў мяне на малалетку. А потым аказалася, што нарабіў ты няякаснай работы на Цэнтралі, Рома. І за гэты «вытворчы брак» у цябе ўсяго толькі падпіску аб нявыезьдзе адабралі. Кажуць, ты часу дарма не губляеш — у якойсьці фірме юрысконсультам туды-сюды? Але як жа мы, Рома Лазуркін, твае «арыштанты»? Твой наступнік Колька Бабарыкін водку нам ня носіць, а лісты, праўда, бярэ. Пры нас чытае, ухваляе — маўляў, недазволенага ў тэксьце няма —абяцае мамцы адправіць і адпраўляе — у 6-ы аддзел альбо ў сьметніцу. Колька яшчэ зялёны. А безь цябе сумна. Заяжджай у 64, мы разгонім табе рамсы за жыцьцё...

... А рэфэрэндум ППРБ выйграў — памыліўся ты. Так што чакаем.

***

Восем месяцаў «крыткі». Яшчэ да суда. Яшчэ «віна» не даказана. Але восем месяцаў турмы ўжо за плячыма. І шостая кніга вершаў ёсьць. «Крытая» — гэта калі ўвесь час у камэры мінус адна гадзіна штодзённай прагулкі. Восем месяцаў — гэта чатыры камэры ў СІЗО КГБ, шпіталь КГБ, тры камэры на Віцебскім цэнтралі і пяць сутак карцэру ў боксе «И». Астатняе — дробязі: глядзім тэлевізар, любім нашых далёкіх жанчын, ненавідзім, каго і ўсе нармальныя людзі, прагнем свабоды...

***

Дзьвюх рэчаў шкада: Толік Сыс прападае — першае. Нашчадка на свабодзе не пасьпеў нарадзіць — другое. Трэцяе... Вось трэцім мы і займаемся — каб людзі нашыя не прападалі самахоць, каб нашым дзецям не пад лавай жыць.

Атрымалася надта пышна, можна і не даваць у друк.

***

Сказана ня мною. Ня так страшны чорт, як яго малюткі. Кураня заводзіцца ў яйку, калі яйка пачынае псавацца. Si circa occidentem rubeseunt nubes, serenitatem futuri dici spondent — чырвоныя аблокі вакол сонца на захадзе абяцаюць ясны дзень.

***

Цяпер і на Цэнтрале гавораць: лепш Пазьняк, чым ніколі.

*5 сьнежня 96 году, ноч, Віцебскі цэнтраль, камэра 64.*

### Малодшаму сяржанту Віталю, сядзельцу 4-й камэры СІЗО КГБ

Сядзіш за скрадзены цэзій,
а мог бы за Беларусь,
маўклівы і негарэзьлівы
барысаўскі беларус.

Яшчэ толькі ўчора быў ты
малодшы сяржант БэА,
у форму як быццам уліты,
як быццам ты ўжо камбат.

Яшчэ толькі ўчора... а сёньня
ты разам са мной сядзіш,
сьціскаеш роспачана скроні,
хістаесься ды маўчыш.

Ты думаў, што шыта-крыта
адбудзецца справа, аднак,
ня выйшла ў цябе са збытам,
і спраўдзіўся дрэнны знак.

І раз ужо так прыйшлося —
давай ня плакаць, ня ныць,
давай рабіць, каб збылося
усё, што павінна быць.

*12.08.96*

Літва: і з Эўропай, і з Расеяй

# Чым больш дакладны разьлік, тым больш моцнае сяброўства

*Магістральным кірункам зьнешняй палітыкі Літвы па-ранейшаму застаецца Расея, на долю якой прыпадае блізу паловы зьнешняга гандлю. Ці ня самы істотны аспэкт узаемадачыненьняў дзьвюх краінаў — энэрганосьбіты.*

У «Газпраму» няма прэтэнзіяў да Літвы (у адрозьненьне ад Беларусі). Гэта было высьветлена пасьля сустрэчы кіраўнікоў прадпрыемства «Lietuvos dujes» («Літоўскі газ») з прадстаўнікамі расейскага канцэрну. Расейскія пастаўшчыкі задаволеныя тым, што Літва разьлічылася цалкам да канца бягучага году, перавёўшы апошнія з запазычанасьці 20 мільёнаў даляраў на рахунак «Газпраму».

Больш таго, Расея гатовая прадаваць надзейнаму партнэру газ таньней. Сёньня Літва плоціць 78 даляраў за 1000 кубамэтраў газу. «Газпрам» прапанаваў варыянты аплаты — па 75, 73 і 70 даляраў за кубамэтар, у залежнасьці ад аб'ёму закупак.

У наступным 1997-м годзе літоўскія прадпрыемствы, у першую чаргу «Lietuvos dujes» і «Stella Vita», закупяць у Расеі каля 4 мільярдаў кубамэтраў газу, зьменшыўшы закупкі мазуту (з экалягічных меркаваньняў). Газ у Літве таньнее.

Другім істотным аспэктам узаемадачыненьняў Расеі і Літвы застаецца пытаньне дэлімітацыі мяжы. «Мы знаходзімся на завяршальнай стадыі», — такую адзнаку літоўска-расейскім перамовам аб мяжы даў пасол Расеі па асаблівых даручэньнях Абухоў.

Са словаў прэзыдэнта Бразаўскаса, дэлегацыям давядзецца вырашыць пытаньне аб трох спрэчных кропках: гэта — возера Віштыціс, вуйсьце Нёмана і марская мяжа з Калінінградзкай вобласьцю.

Перашкодаю ў перамовах стала радовішча нафты Д-6 у Балтыйскім моры, якое пакуль не аднесенае ні да аднаго з бакоў. Але расейцы самахоць ужо паўтары гады таму заключылі дамову зь нямецкімі фірмамі аб стварэньні кансорцыюму KANT дзеля распрацоўкі гэтага радовішча. «Спадзяюся, што на перамовах дамоўленасьць будзе дасягнутая», — заявіў прэзыдэнт Літвы. Бразаўскас заўважыў, што пасьля ўсталяваньня законнае мяжы ўсё стане на свае месцы, і адносіны з Расеяй выйдуць на якасна новы ўзровень. «Спадзяюся, што тут нам будзе лягчэй, чым з латышамі», — дадаў Бразаўскас.

На чым палягае праблема літоўска-латвійскіх узаемадачыненьняў? Ізноў жа ў нафце, велізарнае радовішча якой было выяўленае ў балтыйскім шэльфе, які да сёньня яшчэ не дэлімітаваны. Латвія ў аднабаковым парадку распачала буравыя работы ў Балтыцы, манапалізавала будаўніцтва супэртэрміналу ў Бутынзе...

На пытаньне журналіста газэты «Летувос рытас» кіраўнік новага ўраду Літвы Вагнорус ахарактарызаваў пэрспэктывы дачыненьняў з Латвіяй наступным чынам: «Я быў бы шчасьлівы, каб не было патрэбы ў такіх перамовах, хоць, верагодна, давядзецца ўсур'ёз падлучыцца да разблытваньня вузла з гэтым нафтавым радовішчам. Адна перавага: над намі, якія заступілі наноў, не вісяць сапраўдныя альбо надуманыя памылкі мінулага».

У справах далучэньня Літвы да Эўрапейскага Зьвязу па-ранейшаму самую істотную ролю грае найбуйнейшы партнэр краінаў Балтыі ў Эўропе — новая аб'яднаная Нямеччына.

Хоць і тут у Літвы нямала клопату. Як толькі нацыя становіцца гаспадаром у сваім доме, яна мусіць кантактаваць на роўных зь іншымі. Жыхары Клайпедзкага краю ня могуць даць сабе рады ў сваіх адносінах да нямецкае мінуўшчыны краю, якая налічвала паўтысячы гадоў да 1923 году. Да прыкладу, Шылуцкі раённы савет узьняў пытаньне пра пагрозу германізацыі краю. «У Шылуце адноўлены помнік Г.Зудэрману, хоць у Вільні зьнесьлі нават Пушкіна», — абураецца ў райсавеце прадстаўнік правае кааліцыі. Зудэрман — славуты нямецкі паэт, быў родам з гэтых мясьцінаў. Як і Ёган Гердэр, вядомы нямецкі філёзаф XVIII ст., чыё імя насіла тутэйшая гімназія, дзе, дарэчы, за немцамі былі і літоўскія клясы. Сёньня вакол вяртаньня гімназіі імя клясыка нямецкае філязофіі разгарнуліся баталіі...

Між тым, на дзяржаўным узроўні працэс інтэграцыі Літвы і Нямеччыны йдзе саёй хадою. Толькі што скончылася чатырохтыднёвая інспэкцыя нямецкімі спэцыялістамі літоўскае мытні, абмен дэлегацыямі на ўзроўні МЗСаў, МУСаў і Міністэрстваў юстыцыі, міграцыйнага і мытнага дэпартамэнтаў.

Нямецкія калегі надзвычай высока адзначылі працу літоўскіх крыміналістаў, хаду стварэньня прававое базы і парадак выдачы візаў. Удзельнікі нямецкіх дэлегацыяў сыйшліся на думцы, што не заўважылі істотных перашкодаў на шляху да перамоваў аб бязьвізавым рэжыме. Перамовы пачнуцца ў лютым. Мяркуецца, што дамову аб бязьвізавым рэжыме можна скончыць праз год. Для Літвы гэта азначае ня толькі расчыненьне дзьвярэй у Нямеччыну, але, аўтаматычна, і ва ўсе краіны Шэнгенскага пагадненьня.

Дзеля гэтага Літоўская рэспубліка мусіць выканаць некалькі перадумоваў — далучыцца да Жэнэўскае канвэнцыі аб уцекачах, удасканаліць парадак выдачы пашпартаў усім катэгорыям сваіх жыхароў і... усталяваць жорсткую мяжу зь Беларусяй.

**Сяргей Баркоўскі**



Здымак Гэаса Кэзлаўскага "Поўнач. На Захад."

Шпіянаж

# КЕПСКІ НАСТАЎНІК ДОБРЫХ ВУЧНЯЎ

*Падобна да таго, што «халодная вайна» ніяк ня хоча спыніцца ў адносінах паміж ЦРУ і расейскімі спэцслужбамі. Усьлед за параўнаўльна нядаўнім скандалам, зьвязаным з «супэршпіёнам» Олдрыджам Эймсам, амэрыканскія рыцары плашча і кінжала мусяць расхлёбваць яшчэ адзін, арыштаваўшы з падазрэньнем у шпіянажы свайго чарговага калегу.*

Толькі арышт перашкодзіў Хэральду Нікалсану паўтарыць «посьпех» ягонага папярэдніка Олдрыджа Эймса ў заваёве тытулу «супэршпіёна». Бо, са словаў аднаго высокапастаўленага чыноўніка з ЦРУ, ён быў на шляху да таго, каб, пасьпеўшы прычыніць вялікую шкоду нацыянальным інтарэсам ЗША, зрабіцца адным з найбуйнейшых расейскіх шпіёнаў. Спраўдзіліся самыя змрочныя прагнозы сьледчых у справе Эймса — той ня быў апошнім. Прычым Нікалсан таксама займаў даволі высокую пасаду, працуючы ў аддзеле барацьбы з тэрарызмам ЦРУ.

Сваю кар'еру ў ЦРУ Нікалсан пачаў у 1980 г. і павольна, але ўпэўнена прасоўваўся па службовай лесьвіцы. У ягоным паслужным сьпісе ёсьць пасада інструктара апэратыўнай работы ў навучальным цэнтры ЦРУ ў штаце Вірджынія. Ён навучаў маладых шпіёнаў рознага кшталту хітрыкам на той выпадак, калі тыя заўважаць, што знаходзяцца «пад каўпаком». ЦРУ не паведамляе, наколькі добрым настаўнікам быў Нікалсан, але відавочна, што на практыцы выкладаную ім тэорыю ён выкарыстаць ня здолеў. Бо ўпершыню ён патрапіў пад падазрэньне менавіта на самым простым паліграфе, які звычайна проста мянуецца дэтэктарам ілжы — комплексным электронным прыстасаваньні, што складаецца з адмысловых датчыкаў, падлучаных да розных месцаў цела, сыгналы якіх апрацоўвае камputар. Сваім студэнтам-контарразьведчыкам Нікалсан распавядаў пра мэтады абману гэтага мудрагелістага прыстасаваньня, прынятага расейскімі (як, дарэчы, і ўсялякімі іншымі) шпіёнамі. Дзеля гэтага перад кожным пытаньнем, што можа выклікаць хваляваньне, яны робяць глыбокі ўдых. Такое ненатуральна глыбокае дыханьне і павінна быць прыкметаю спробы схаваць праўду. Па іроніі лёсу Нікалсан пагарэў менавіта на гэтым.

Як вядома, кожны супрацоўнік ЦРУ абавязаны праз кожныя некалькі гадоў праходзіць сэрыю тэстаў па дэтэктары ілжы. Калі год таму Нікалсан быў у чарговы раз падлучаны да паліграфа, новая і вельмі эфэктыўная кампутарная праграма заўважыла сьляды маны. Праз чатыры дні тэст паўтарылі, і гэтыя сьляды выявіліся зноў. Таму Нікалсану давялося прайсьці паўторную працэдуру адказаў на яшчэ больш мудрагелістыя пытаньні. Спэцыяліст, які праводзіў тэставаньне, заўважыў, што ў гэты час Нікалсан рабіў глыбокія ўдыхі. Экзамэнатар загадаў Нікалсану спыніцца і задаў пытаньне на засыпку: «Ці праўда, што Вы спрабуеце схаваць ад ЦРУ свае кантакты з замежнымі разьведслужбамі?» Нікалсан адказаў «не», а прыбор зноў зафіксаваў штосьці ня тое.

Пасьля гэтага за Нікалсанам на ўсялякі выпадак пачалі сачыць. Пачалі з праверкі ягоных фінансавых справаў. Тое, што выдаткоўваў Нікалсан, сьведчыла на карысьць жыцьця не па сродках. За свой кошт ён рабіў частыя паездкі ў Паўднёва-Ўсходнюю Азію, пасьля чаго на ягоны амэрыканскі банкаўскі рахунак паступалі грашовыя пераводы. У чэрвені Нікалсана высачылі ў Сынгапуры, дзе той жыў у дарагім (300 USD за суткі) гатэлі, дзе расплаціўся наяўнымі, што вельмі не характэрна для амэрыканцаў, якія выкарыстоўваюць дзеля гэтага крэдытныя карткі ці падарожныя чэкі. Агенты ФБР усталявалі за Нікалсанам тайнае назіраньне, падчас якога той паводзіў сябе як сапраўдны дылетант, што мог бы пацьвердзіць любы зь ягоных вучняў. Калі ў дзень сустрэчы з расейскім сувязным ён выйшаў з гатэлю, то як навабранец-практыкант пачаў зьбіваць патэнцыяльнае сачэньне, чатыры часы пятляючы па вуліцах гораду, спыняючыся перад вітрынамі крамаў, каб праверыць, што за ім няма «хваста». Пасьля ён спусьціўся ў мэтро і выйшаў назад. Крыху пазьней у той жа дзень ён зрабіў гэткі ж, у стылі кепскіх шпіёнскіх фільмаў, шпацыр. На гэты раз на станцыі мэтро Нікалсан сустрэўся з чалавекам, зь якім прайшоў у напрамку стаянкі таксі, дзе сеў у машыну з расейскімі дыпляматычнымі нумарамі. І ўсё гэта адбывалася на відавоку агента ФБР, які фільмаваў яго на камэру.

Агенты ФБР працягвалі сачыць за Нікалсанам, пакуль, нарэшце, схаванай камэрай не зазьнялі, як ён фатаграфаў у сваім службовым кабінэце сакрэтныя дакумэнты. У момант свайго арышту 16 лістапада ў міжнародным аэрапорце Вашынгтона Нікалсан накіроўваўся на чарговую сустрэчу з расейскім сувязным. Са словаў дырэктара ЦРУ Джона Дойча, шкода, якую зрабіў Нікалсан нацыянальным інтарэсам ЗША, нагэтульки істотная, што ягоная ўстанова прадпрыме ўсе меры для недапушчэньня паўтору надобнага ў будучыні. Між іншым, дакладна такія ж абяцаньні даваліся кіраўніцтвам ЦРУ блізу году таму з нагоды справы Эймса. Самае сьмешнае, што ўсяго праз 2 месяцы пасьля таго, як апошні быў засуджаны на пажыцьцёвае зьняволеньне, Нікалсан атрымаў ад расейцаў грашовы перавод на 12 тыс. даляраў.

Выпадкі з Эймсам і Нікалсанам дэманструюць зьяўленьне ў ЗША новага віду шпіёнаў пасьля заканчэньня «халоднай вайны». Калі раней радзіму прадавалі пераважна з ідэалягічных меркаваньняў, то цяпер, у адпаведнасьці з законамі свабоднага рынку, гэта робіцца за вялікія грошы. Якраз магчымасьць апошняга катэгарычна адмаўляюць родзічы Нікалсана, якія адгукаюцца пра яго як пра ідэалістычнага, духоўнага чалавека і добрага бацьку. Сябры распавядаюць, што ў часе антывайсковых студэнцкіх бунтаў Нікалсан заставаўся непахісным патрыётам. А пасьля



заканчэньня ўнівэрсытэту штата Арэгон ён адразу ж пайшоў на службу ў войска, дзе да свайго пераходу ў ЦРУ даслужыўся да капітана. У інтэрвію карэспандэнту амэрыканскага часопіса Time бацька Нікалсана, адстаўны старэйшы сяржант ваенна-паветраных сілаў, сказаў, што «ягоны сын заўсёды быў адданы ўраду ЗША і сваёй працы». Брат Нікалсана, Робэрт таксама аспрэчвае мэркантыльныя інтарэсы Хэральда.

І тым ня менш, 31-старонкавая справаздача ФБР утрымлівае апісаньне шэрагу буйных і нерастлумачаных Нікалсанам паступленьняў на ягоныя банкаўскія рахункі ў агульнай суме 180 тыс. даляраў. Прычым, паступаць яны пачалі менавіта пасьля пагаршэньня ягонага фінансавага становішча, калі Нікалсану пачало неставаць гадавой зарплаты ў 73 тыс. даляраў. Да 1994 г. Нікалсан працаваў за мяжой пад прыкрыцьцём статуса дыпляката, маючы пры гэтым вялізны службовы дом, дарагую машыну, за казённы кошт пасылаючы дзяцей у прыватныя школы. Пасьля вяртаньня на радзіму ўсе гэтыя ільготы адпалі. У той жа год пасьледаваў развод, што пацягнуў разьдзел маёмасьці і выплату жонцы алімэнтаў у памеры 25% ад гадавога прыбытку.

У мінулым месяцы агенты ФБР заўважылі, як Нікалсан кінуў ліст у вулічную паштовую скрыню. Яго, натуральна, адразу ж дасталі і прачыталі. Там на паштоўцы зь відам месца будучай сустрэчы было сяброўскае пасланьне ад імя нейкага Нэвіла Страчы. Калегі Нікалсана з ЦРУ былі глыбока ўражаныя архаічнасьцю мэтадаў ягонай працы. Прызначэньне сустрэчы праз звычайную пошту, ды яшчэ й з традыцыйнай для даўно мінулых гадоў паштоўкай з выявай месца сустрэчы сёньня можна знайсьці толькі ў падручніках гісторыі разьведвальнай справы. Сучасныя шпіёны карыстаюцца сотавымі тэлефонамі і Інтэрнэтам.

Нягледзячы на ўсе пералічаныя вышэй улікі, яны толькі ўскосна сьведчаць пра віну Нікалсана. Для прызнаньня яго вінаватым патрэбнае сур'ёзнае судовае разьбіральніцтва. Адвакаты Нікалсана настойваюць на дачы ім кампутарных зьвестак з вынікамі тэстаў на дэтэктары ілжы і адкрытай праверкі астатніх матэрыялаў, паколькі, як ужо высьветлілася, адна з улікаў ФБР аказалася сфабрыкаванай. Але якраз адкрыты працэс і палохае кіраўніцтва ЦРУ. Гэта можа выклікаць непажаданае раскрыцьцё цэлага шэрагу звышзасакрэчанай інфармацыі. Ведаючы пра слабое месца ЦРУ, адвакаты Нікалсана ўмела маніпулююць гэтым, выганддлёўваючы максымальна выгодныя ўмовы для свайго кліента.

Адзіны вынік справы, што задаволіў бы ўрад, — атрыманьне прызнаньня сваёй вінаватасьці ад самаго Нікалсана. Толькі тады паводле амэрыканскага заканадаўства можна ўнікнуць судовага працэсу. У выпадку з Эймсам усё было прасьцей. Той пагадзіўся прызнаць сваю вінаватасьць узамен на абяцаньне ўраду зьняць абвінавачаньні зь яго жонкі. А на Нікалсана націснуць няма чым. Хіба што паабяцаць яму больш мяккае пакараньне. Але за недахопам улікаў сьмяротны прысуд яму й так не пагражае, пажыцьцёвае зьняволеньне гарантаванае ў любым выпадку. Таму асноўныя козыры Нікалсана цяпер — маўчаньне і патрабаваньне судовага разьбіральніцтва. На гэты раз глыбокі ўдых мусіць зрабіць ЦРУ.

**Уладзімер Барановіч**

## Бясплатныя прыватныя абвесткі

Танна прадаецца крыху незавершаны вялікі катэдж у цэнтры Барысава. Пэйджынг 781101, Аб.434

Радыёпрыёмнік "Верас-225" з канвэртэрам у добрым стане прадам ці памяняю. Тэл. 44-44-64

Дакумэнтальныя й мастацкія фатаздымкі зь некаторых сёлетніх дэманстрацыяў (22/VI, 19/X, 17/XI). "Героям" кадра — бясплатна. Таксама мяняю.

Мяняю 2-х пакаёвую кв-ру ў П.Сноў, пл.75/50/12, тэл., 2 лодж., на кватэру ў Менску ці прадам за 9 тыс. даляраў. Тэл. 241-10-04 пасьля 16.00.

34-гадовы беларускі патрыёт бяз шкодных звычак, сьлесар, мроіць адшукаць чулае сэрца беларускамоўнай спадарожніцы жыцьця. Алесь Рымарук. Баранавічы, в.Фралянкова, 36-3.

Беларускія ўмельцы! Ёсьць патрэба саматужна ўзнавіць "Пагоню" на 3-6 тамах "БГЭ" "залатым" цісьненьнем. Тэл. 70-01-87

Хату (20 км ад Навагарадка, 69г. драўляную, калодзеж, сад, гасппабудовы за 1.800$ прадаю. Тэл.(8-01713) 41-3-91

Куплю новую мэблевую сыценку тыпу Заслаўе, Палесьсе ці іншую за безнаяўны разьлік коштам 250-300$. Тэл.(02155) 2-26-71, 2-15-56 (Рыта).

Шукаю дапамогі, каб зьехаць на пастаяннае жыхарства ў Польшчу, ці ў іншую краіну з расейска-беларускамоўным асяродзьдзем: Вайсковец-памежнік, 33 гады. г. Паставы, Галоўпаштамт, да запатрабаваньня, п/д АГЗ N802619

Пазнаёмлюся з замежнай жанчынай дзеля сумеснага жыцьця за мяжой. 33/180/74, в/а, беларус. Разумею польскую, украінскую мовы, знаёмы з ангельскай. 211840 г. Паставы, галоўпаштамт, п/д АГЗ N802619

Шукаю спонсара-суаўтара кнігі "Легенды і праўда жыцьця Паўлюка Багрыма". Пісаць: 225320 Баранавічы, Брэсцкая 293/2, 42, Маліноўскаму Міхасю.

Прадаю запісы Данчыка, А.Мельнікава, "Ліцьвіноў", "Нейродюбель", "Ляписов" і інш. Тэл. 49-08-88 Віталь

Прадаю тэксты гурта "Камэлот" з акордамі. Тэл. 49-08-88 Віталь

Тэрмінова прадаецца 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, Тэл. 3-62-62, Я.Коласа 57/87

Беларускі патрыёт, 22 гады, здыме пакой у родных па духу гаспадароў за сымбалічную плату. Раблю любую хатнюю працу. Тэл. 251-42-56 Хведар

Прадаецца хата. Напрамак Кобрынь-Пінск, 24 км. 43 соткі. Нядорага. Тэл. 223-73-52. Менск. Тэлефанаваць з 18 гадзінаў.

Куплю: лядоўню М-131, б/к. Печ СВЧ б/к — танна. Тэл. 294-16-99.

Шукаю спадарожніцу жыцьця. Незласьлівы, сарамлівы. 55 год. Заікаюся. Інтарэсы інтэлектуальныя. Многае умею. Працую. 220024, Менск, вул. Асаналіева, 13/І, кв.72.

Галіну Аляксееўну Сініцыну зь днём нараджэньня віншуюць сябры-аднадумцы з Воршы. Шчыра жадаем плёну ў працы і аптымізму.

Недзяржаўнае дабрачыннае таварыства аховы жывёлаў запрашае стацца нашым сябрам або спонсарам.

Прадаю аўтамабіль ВАЗ-2101 у добрым тэхнічным стане 1975 г. Куплю канчатковы ўзмацняльнік "Прибой". Тэл. 268-37-32.

Свайго прыватнага настаўніка беларускай мовы Сярожу зь Менску віншуе з Калядамі Таня. Я кахаю цябе!



## The Publishers Weekly Bestsellers
## Сьпіс бэстсэлераў на 13.12.96

| На гэтым тыдні | На мінулым тыдні | Назва кнігі. Аўтар | Выдавецтва | Колькасьць тыдняў у сьпісе |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 4 | Executive Orders Том Клэнсі | Putnam | 18 |
| 2 | 9 | The Fallen Man Тоні Хілэрман | HarperCollins | 2 |
| 3 | 1 | Silent Honor Даніэла Стыл | Delaconte | 24 |
| 4 | 2 | The Deep End of the Ocean Жаклін Мітчард | Viking | 14 |
| 5 | 6 | The Laws of Our Fathers Скот Тараў | Farrar, Straus & Giroux | 11 |
| 6 | 3 | "M" is for Malice Сью Грэфтан | Henry Holt | 6 |
| 7 | 5 | The Tailor of Panama Джон Ле Карэ | Knopf | 8 |
| 8 | 8 | The Notebook Нікалас Спаркс | Warner | 9 |
| 9 | 7 | The Third Twin Кэн Фолет | Crown | 13 |
| 10 | | My Gal Sunday by Mary Higgins Clark | Simon & Schuster | 1 |

@1995 Cahners Publishing Company

## САМЫЯ ПАПУЛЯРНЫЯ П'ЕСЫ НА БРАДВЭІ 25 ЛІСТАПАДА — 12 СЬНЕЖНЯ 1996 ГОДУ

| Месца | П'еса | Тэатар | Кошт квіткоў на лепшыя месцы |
|---|---|---|---|
| 1. | Rent | (Nederlander) | $70 |
| 2. | Bring in 'Da Noise, Bring in 'Da Funk | (Ambassador) | $67.50 |
| 3. | The Phantom of the Opera | (Majestic) | $70 |
| 4. | Chicago | (Richard Rodgers) | $70 |
| 5. | The King and I | (Neil Simon) | $70 |
| 6. | Les Miserables | (Imperial) | $70 |
| 7. | A Funny Thing Happened On The Way To The Forum | (St.James) | $70 |
| 8. | Beauty and the Beast | (Palace) | $70 |
| 9. | Grease | (Eugene O'Neill) | $67.50 |
| 10. | Master Class | (John Golden) | $45 |

**З 20 па 22-е! У Менску! І Міжнародны дабрачынны фэстываль "Студэнцкія каляды — 96". У залі Лінгвістычнага Унівэрсітэту. Квіткі можна набыць перад пачаткам а 19-ай гадзіне.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусі
АБАНЭМЭНТ на газэту 63125

НАША НІВА

Колькасьць камплектаў

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (паштовы індэкс) (адрас)

Каму ____ (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАЎНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | Літэр

на газэту 63125

НАША НІВА

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасьць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрас. | руб. | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)



# ЧАРОЎНЫ ЗАГАР

## /Саляры Кетлера/

Улетку ў невыносную сьпёку мы ўсе імкнемся на пляж, да вады, каб адпачыць і набыць чароўны, прывабны загар. Бо кожны з нас хоць аднойчы выпрабаваў на сабе магічную і прыемную для навакольных сілу "стомленага" сонцам загарэлага цела. Прыемна пасьля водпуску прыступіць да працы і ўвесь час чуць ад калег і знаёмых выкрыкі зачараваньня, выкліканыя Вашым шыкоўным загарам, бо і Вы самі адчуваеце сябе ўпэўнена, так як цяпер маецца велізарны зарад энэргіі і рашучасьць разабрацца з усімі існуючымі праблемамі. Неаднаразова ў хвіліны спакою Вам будзе зноў і зноў бачыцца пяшчотнае сонца, пяшчотная водная гладзь і жоўты пляжны пясок. Ня выключана, што Вы зноў захочыце наступным летам акунуцца ў такі прыемны стан бесклапотнасьці і прыгажосьці. Але затым чакаць так доўга?! Лепшыя навукоўцы сьвету і спэцыялісты аб'ядналі свае ўмовы і стварылі саляр. Безумоўна, нават мільёнам саляр не заменіць сонца, проста эпоха прагрэсу дае нам магчымасьць адчуць цяпло і эфэктыўнасьць маленькага штучнага сонейка ў любы зручны для нас час. Сонца напаўняе нас энэргіяй, робіць задаволенымі жыцьцём і актыўнымі, ад яго мы атрымліваем жаданы прывабівы загар. Адыходзячыя ад сонца альбо з саляра ультрафіялетавыя промні паляпшаюць наша самаадчуваньне, якое залежыць ад біяхімічных працэсаў, бо сонца ўплывае на важныя гарманальныя працэсы, паляпшае абмен рэчываў, павялічвае супраціў арганізму, дапамагае пераадолець стрэс. У правільным дазаваньні сонечны сьвет можа



зьнізіць крывяны ціск, садзейнічаць утварэньню эрытрацытаў, можа рэгуляваць узровень цукру і халестэрыну ў крыві. Супакойваюцца болі ў суставах, зьнікае адышка. Дзякуючы салярам ад Кетлера Вы становіцеся незалежнымі ад надвор'я: цудоўны настрой, цудоўны загар, калі Вы гэтага пажадаеце. Больш таго, вядома, што штучнае сонца лье на Ваша безабароннае цела вялізны спэктар розных промняў. Але толькі два віды промняў пакрываюць загарам скуру — гэта мяккія ультрафіялетавыя а-промні, якія не выклікаюць раздражненьня скуры, і агрэсіўныя б-промні, якія садзейнічаюць яе пачырваненьню. У салярах ад Кетлера ўстаноўленыя магутныя інсталяцыйныя люмінісцэнтныя лямпы, якія маюць на шмат разоў больш моцнае ультрафіялетавае карыснае а-выпраменьваньне, чым штучнае сонца, а шкоднае б-выпраменьваньне прафільтраванае і паніжанае да мінімума. Бліскучыя алюміневыя рэфлектары, разьмешчаныя пад вуглом, садзейнічаюць раўнамернаму прыгожаму загару бакавых частак цела. Акрамя таго, усім вядома, што твар і цела загараюць не аднолькава хутка, бо скура твару звыклая да больш інтэнсіўнага штодзённага апраменьваньня. Каб дасягнуць раўнамернага загару ўсяго цела, неабходна больш інтэнсіўнае апраменьваньне ў вобласьці твару. Таму высокаякасныя саляры Кетлера забясьпечаныя інтэгруючымі прыборамі для загару твара, якія дазваляюць дасягнуць неабходнага раўнамернага эфэкту. Саляры ахалоджваюцца магутнымі вэнтылятарамі, так што пад час прыняцьця сонечнай ванны валадарыць прыемны клімат. Вы толькі закрыйце вочы і дазвольце Вашаму багатаму ўяўленьню прадставіць бязвоблачнае неба, залаты пясок і шум прыбою. Да таго ж Вы маеце магчымасьць зрабіць сюрпрыз родным і знаёмым, а таксама выклікаць фурор, зьявіўшыся на вечарынцы альбо навагоднім балі з загарам малочна-шакаляднага адценьня. Будзьце ўпэўныя, уся ўвага прысутных сканцэнтруецца на Вашай асобе, захапляльныя погляды толькі пацьвярджаюць, што Вы па-каралеўску чароўная і прывабная. Падаруйце сабе ўвагу і зачараваньне навакольных! Скарыстайцеся новымі прафэсійнымі паслугамі спэцыялістаў АП "Усход" — салярамі Кетлер у спэцыялізаваных кабінэтах цырульняў N 54 /вул. Даўгабродзкая, 9а/, N 13 /вул. Сурганава, 8/. Дастаўце сабе задавальненьне!




# ЗДАРОЎЕ І ПРЫГАЖОСЬЦЬ ВАШАЙ ФІГУРЫ

## /Міястымулятары/

Ці чулі Вы пра новыя сродкі, якія дазваляюць трымаць сябе ў тонусе? Калі не, то вельмі шкада, бо гэтыя прыборы, распрацаваныя ў Францыі, ужо зьявіліся ў салёнах-цырульнях АП "Усход" у Менску. Францускія жанчыны амаль заўсёды ва ўсе часы былі эталёнам прыгажосьці, жаноцкасьці і сэксуальнасьці. Францускія мужчыны, напэўна, вырашылі дапамагчы ўсім жанчынам сьвету выглядаць ня горш за суайчыньніц і распрацавалі шэраг прыбораў (міястымулятараў), якія аблягчаюць цудоўнай палове чалавецтва нагляд за сваёй фігурай і прыгажосьцю. Міястымулятары вытворчасьці вядомай францускай фірмы Gezanne зьяўляюцца адной з апошніх распрацовак сусьветна вядомай сэрыі "Электронныя прыборы для здароўя і прыгажосьці" і прызначаныя для карэкцыі фігуры, інтэнсіўнага зьніжэньня вагі, павелічэньня элястычнасьці і пругкасьці скуры. Асноўная мэта стварэньня гэтых прыбораў — аказаньне дапамогі людзям, якія жадаюць выдатна выглядаць, але ў якіх проста няма часу наведваць трэнінг-залі, курсы масажу, заняткаў аэробікай альбо шэйпінгам. Прынцыпы работы новых прыбораў даволі простыя —"пасіўныя" практыкаваньні мышцаў пад дзеяньнем электрычных імпульсаў спэцыяльнай формы, якая вызначае рэжым аптымальнай нагрузкі для скарачэньня і расслабленьня Вашых мышцаў. Зьмены, якія адбываюцца пры гэтым у мышцах, поўнасьцю аналягічныя працэсам, якія адбываюцца ў мышачных тканках пры інтэнсіўных занятках спортам. Праца Вашых мускулаў пад дзеяньнем міястымулятараў садзейнічае паляпшэньню забесьпячэньня крывёю, зьнішчэньню тлушчавых адкладаньняў, у тым ліку цэлюліта ("апэльсінавай коркі"), і павелічэньня агульнага тонуса арганізму. Адным з выдатных магчымасьцяў гэтых прыбораў зьяўляецца тое, што акрамя чыста касмэтычнага эфэкту (падцягваньне мышцаў, зьніжэньне лішняй вагі, амалоджваньне скуры), яны аказваюць і ярка выражаны лекавы эфэкт пры нэўралёгіях, бяссоньні, рэўматызме. Усё гэта дае нямала дадатковых вынікаў: умацаваньне сардэчна-сасудзістай сыстэмы, інтэнсіўны вывад шлакаў, павышэньне пругкасьці і элястычнасьці скуры, і — выдатнае самаадчуваньне плюс добры настрой. Шматлікія экспэрымэнтальныя дадзеныя і практыка мэдыкаў падцьвердзілі заключэньне аб высокай эфэктыўнасьці міястымулятараў францускай фірмы Gezanne. Ужо сёньня Вы маеце магчымасьць зьвярнуцца ў касмэтычны кабінэт цырульні N 155 /пр. Машэрава, 41/ АП "Усход" і, параіўшыся з дасьведчанымі і кваліфікаванымі спэцыялістамі, адчуўшы на сваім целе дзеяньне гэтых унікальных францускіх міястымулятараў. На практыцы Вы зможаце ўпэўніцца ў магчымасьці захаваць сваю маладосьць і прыгажосьць на доўгі час. Адчуйце сябе Дасканаласьцю!





# ЦУДОЎНАЯ ТЭРАПІЯ

## /Біястымулятары/

Валасы — лепшае ўпрыгожаньне ўсялякага чалавека. Доўгія, кароткія, прамыя, закручаныя, сьветлыя альбо цёмныя - жаночыя валасы прыгожыя толькі тады, калі яны здаровыя. Трымаючыся моды, жанчыны фарбуюць свае валасы, начэсваюць, робяць хімічную завіўку, мыюць кожны дзень галаву, ня думаючы пра наступствы, але аднойчы даведаюцца, што валасы сталі ломкімі, тонкімі, згубілі папярэдні бляск. А мужчыны! Любяць нагадваць прымаўкі тыпу: "Волас доўгі, ды розум кароткі", але вельмі ўважліва сочаць за сваімі валасамі блізкія да адчаю, заўважаючы першыя прызнакі парадзеньня шавялюры. Кідаючыся тайком купляць розныя ласьёны, вычварным вобразам укладаюць валасы, каб замаскаваць "здрадлівыя" залысіны, а тыя, у каго застаецца зусім мала валасоў, адпускаюць бараду і вусы.

Адміраньне і выпадзеньне валасоў адбываецца ўвесь час, але пры некаторых захворваньнях, няправільным даглядзе і ў выніку іншых прычынаў выпадзеньне валасоў можа стаць значным. Сучасная навука і тэхналёгія дасягнулі адпаведнага прагрэсу і ў папярэджаньні выпадзеньня валасоў. Распрацавана некалькі мэтадаў лячэньня з прымяненьнем спэцыяльных прыбораў. Самы даступны і эфэктыўны прыбор зь іх Stimu Vit. Дзеяньне прыбора Stimu Vit заснаванае на лёгкім масажы цемені, стымулюючы рост валасоў. Рэзультаты ад прымяненьня гэтага прыбора пераўзышлі ўсе чаканьні: паляпшаецца мікрацыркуляцыя ў цеменевай вобласьці, узмацняецца прыток кіслароду і спажыўных рэчываў тканкам, што, у сваю чаргу, садзейнічае росту валасоў!

Каб палепшыць агульны стан чалавечага арганізма і ўмацаваць яго імунную сыстэму спэцыялісты-касмэтолягі апошнім часам прымяняюць палярызаваны сьвет Цэптар-Біёніка. Лінейна-палярызаваны сьвет узьнікае пры пераламленьні натуральнага сьветлавага промня, які праходзіць скрозь прызмы і крышталі з асаблівым чынам апрацаванымі паверхнямі. Адлюстраваны ад паверхні сьветлавы прамень мае ўласцівасьць палярызацыі. Распаўсюджваючыся ў адной плоскасьці, гэты прамень узьдзейнічае на клеткі, адсюль тыя пераходзяць у рух, а гэта ні што іншае, як біястымуляцыя арганізма. Палярызаваны сьвет вырабляе рэарганізацыю клетак скуры (амалоджвае), павялічвае патэнцыял электрычнага поля клетак, робіць іх трывалымі і садзейнічае насычэньню кіслародам. Цэптар-Біянік заслугоўвае Вашай увагі як прыбор, з дапамогай якога можна дамагчыся пазбаўленьня маршчынаў, пігмэнтных плямаў, рубцоў, бародавак і іншых сьлядоў, якія застаюцца на скуры пасьля пашкоджаньня, а тасама прызнакаў яе старэньня. Палярызаваны сьвет Біянік-лямпы пранікае на 2 і больш сантымэтраў у глыб тканак, актывізуючы функцыі клеткі і абменныя працэсы. Скура ачышчаецца і выглядае здаровай і сьвежай (павялічваецца магчымасьць урымліваць вільгаць). Практыка прымяненьня Цэптар-Біяніка паказала, што прыбор эфэктыўна дапамагае і лечыць:

а) Скурныя захворваньні: запаленьне, каросту, лішай, дэрматыты, псорыяз, алергію, інфэкцыі, апёкі markрознага паходжаньня і абсцэсы;

б) Саматычныя болі: артрозы, рэўматызм, артрыты, мігрэні, трафічную язву ног, спартовыя і іншыя траўмы і пераломы, галаўныя болі, абумоўленыя эмацыйным напружаньнем і запаленьнем верхніх дыхальных шляхоў;

в) Прафіляктыка і зажыўленьне: адкрытыя раны, апёкі рознага паходжаньня, ацёкі, вострыя расьпіратарныя захворваньні, прастуда,



алергічны катар і многія іншыя захворваньні;

г) Прымяняецца ў касмэтычных мэтах: для зьнішчэньня маршчынаў, пігмэнтных плямаў, шрамаў, рубцоў, іншых сьлядоў пашкоджаньня скуры, а таксама прызнакаў яе старэньня. Калі людзей пытаюцца, што для іх важней за ўсё ў жыцьці, як правіла, можна пачуць: маё здароўе і самаадчуваньне; але пра сябе кожны думае: і прыгажосьць. Калі ж спытаць, што яны робяць для свайго здароўя, то адныя толькі усьміхаюцца і пацiснуць плячыма, а іншыя адкажуць, што чытаюць артыкулы пра тое, як захаваць здароўе, набываюць розныя крэмы і зайздросьцяць тым, хто турбуецца пра сябе па-сапраўднаму.

Кожнаму з нас неабходна памятаць, што мы самі ў адказе за сваё здароўе. Мэдык можа дапамагчы нам справіцца з хваробай, але ён не нясе адказнасьці за нашае здароўе і прыгажосьць. Таму Вы самі павінны турбавацца пра сябе. Многія мары могуць зьдзяйсьняцца ў Вашым жыцьці, калі ў парадку ўсе зьвеньні ланцуга посьпеху: праца — заробак — імкненьне — здароўе.

Запрашаем Вас наведаць касмэтычны кабінэт цырульні N 155 /пр. Машэрава, 41/ АП "Усход". Да Вашых паслугаў лепшыя біястымулятары і масажэры. З Вамі працуюць спэцыялісты толькі высокай клясы. Кошты даступныя. Патурбуйцеся пра сябе!

№ 37 (75)

# БЕЛАРУСКІ НЕПАДЦЭНЗУРНЫ ДРУК

## Каталёг пэрыядычных ды працяглых выданьняў 1971-90 гадоў

*Дадатак*

**1. БЮЛЕТЭНЬ КАМІТЭТА "ГАЛАСУЮ ЗА БЕЛАРУСЬ": Маладачанская рада БНФ "Адраджэньне". — [1990]. — 8'. — 4 с. — (машынапіс + ксэра).**

Вядома пра два нумары выданьня, што выйшлі ў 1990 г. Рэдакцыйны склад не пазначаны. Наклад невядомы. Эмблематыка: "Пагоня" на шчыце. Дэвіз: "Жыве Беларусь!" на апошняй старонцы выданьня. Фармат — 1/8 аркуша.

Надрукаваныя сьпісы дэмакратычных дэпутатаў і рэкамэндацыі да правядзеньня выбараў.

*Дадатковая інфармацыя — Алесь Капуцкі.*

**2. ВЕСТКІ: ваўкавыскіх сяброў БНФ "Адраджэньне". — 1990. —№1. — 8'. — 8 с., іл. — Др-ня: "Belsamizdat" — накл.: 800 асобнікаў.**

Газэта ваўкавыскіх сяброў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" "Весткі" пачала выходзіць у лістападзе 1990 г., праўдападобна, выйшаў усяго адзін нумар. Выданьне дзьвюхмоўнае. Рэдакцыйны склад невядомы. Пазначаны наклад наўмысна зьменшаны. Эмблематыка і дэвіз адсутнічаюць. Мастацкае аздабленьне: напісаныя мастацкім шрыфтам тытул, загалоўкі артыкулаў, рамкі і ілюстрацыі. Фармат — 1/8 аркуша.

*Друкавліся матэрыялы палітычнага, нацыянальнага ды гістарычнага кірунку.*

**3. КОНТАКТ: Информационный бюллетень Минского еврейского культурного общества. — Минск. — 1989. — 60 с. — (фота).**

1989: 1, 2, 3, 4.

*У фондах Архіву адсутнічае.*

**4. ЛІТАРАТУРА. — [Менск]. — [1989-1990]. — 16'. — 46-64 с. — (машынапіс + ксэра).**

1989: вып. 1; 1990: вып. 2.

Выйшла ўсяго два выпускі выданьня. Рэдакцыйны склад не пазначаны, наклад невядомы, выходныя зьвесткі адсутнічаюць. Мастацкае аздабленьне: назва выданьня на вокладцы і загалоўкі некаторых матэрыялаў напісаныя мастацкім шрыфтам.

Фармат — 1/16 аркуша.

*Друкуюцца літаратурныя творы.*

**5. МАДРИГИН = СТУПЕНИ / Союз Еврейской Молодёжи и Студентов. — Минск. — 1990 (5750). — 8'. — 4 с., іл. — (камп. + ксэра).**

Першы нумар выданьня выйшаў у красавіку 1990 г. на расейскай мове. Рэдакцыйны склад не пазначаны, зьвесткі пра наклад адсутнічаюць. Мастацкае аздабленьне: напісаньне тытулу і загалоўкаў мастацкім шрыфтам, рамкі і ілюстрацыі. Выданьне мае эмблематыку. Фармат — 1/8 аркуша.

*Друкуюцца матэрыялы на габрайскую тэматыку, інфармацыя.*

**6. ПАРСУНА / М.Скобла, С.Адамовіч, А.Калюта (мастак), А.Гуцаў, А.Дзялендзік. — [1988]. — 4'. — 50 с., іл. — накл.: 7 экз. — (машынапіс).**

Адзіны нумар часопіса "Парсуна" выйшаў, праўдападобна, у 1988 г. Выданьне было машынапіснае, аб'ём — 50 старонак, надрукавана на паперы фарматам А4. Мастацкае аздабленьне: лякаваная вокладка шэрага колеру з чырвонай паласой, ілюстрацыі. Фармат — 1/4 аркуша.

Друкаваліся творы літаратурна-мастацкага, публіцыстычнага накірунку, таксама існавала сатырычная старонка.

*У фондах Архіву адсутнічае. Дадатковая інфармацыя — М.Скобла.*

**7. РАНІЦА: выданьне маладачанскага аддзяленьня БНФ "Адраджэньне". — [Маладэчна]. — [1989]. — 8'. — 2-4 с. — (машынапіс).**

Газэта "Раніца" пачала выходзіць з 1989 г. Рэдакцыйны склад не пазначаны. Мова — беларуская, арыгінальныя матэрыялы і перадрукоўкі зь іншых выданьняў друкаваліся на расейскай мове. Першыя нумары выданьня былі адрукаваныя на машынцы на аркушах паперы фарматам А4 праз адзін інтэрвал. Тытулы №1 і №2 напісаныя чырвонай фарбай пры дапамозе трафарэта. Эмблематыка — "Пагоня". Аб'ём выданьня — 2-4 старонкі. Фармат — 1/8 аркуша. Наклад ня высьветлены.

Друкаваліся матэрыялы, якія адлюстроўваюць рэгіянальныя падзеі, а таксама гістарычнай і палітычнай тэматыкі.

*Дадатковая інфармацыя — Алесь Капуцкі.*

**8. РАНІЦА: інфармацыйны бюлетэнь суполкі "Грамада" — групы падтрымкі БНФ "Адраджэньне" Менскага раёну Беларусі / Ю.Пятроўскі. — Сеньніца. — 1989. — 8'. — 2 -4 с. — накл.: 25 асобнікаў. — (машынапіс).**

У архіве маюцца N24-25 , якія выйшлі ў красавіку 1989 г. Праўдападобна, што "Раніца" зьявілася працягам газэты "Грамада". Выданьне машынапіснае, аддрукаванае з аднаго боку сінім колерам на паперы фарматам А4 праз 1/2 інтэрвала. Бюлетэнь мае дэвіз: "Загляне сонца і ў нашае ваконца". Мова выданьня — беларуская, правапіс — дарэформавы. Шрыфт машынкі — расейскі, таму адсутнічае "ў". Пазначаны наклад — 25 асобнікаў.

*Друкаваліся матэрыялы палітычнага і нацыянальнага зьместу.*

**9.РОКАШ: Газэта Прыазерскай гарадзкой рады ТБМ імя Францішка Скарыны (Джэзказганскай вобл. Казахстана) / С.Суднік, І.Супоненка, А.Аўчыньнікаў, В.Грамадка, С.Пахучы, А.Мазураў, С.Цьвірка. — 1990-92. — 4'. — 4 с., іл. — накл.: 150 асоб. — (камп.).**

"Рокаш" выдаваўся беларускімі вайскоўцамі ў Казахстане са жніўня 1990 г. Да кастрычніка 1992 выйшла ўсяго 15 нумароў і адзін сьвяточны выпуск, прысьвечаны 73-м угодкам БНР. Склад рэдакцыі зьмяняўся. Мова выданьня — беларуская, правапіс — парэформавы. Мастацкае аздабленьне: назва выданьня выкананае вялікімі літарамі чырвоным (у асобных нумарах — чорным) колерам, ілюстрацыі. Эмблематыка — "Пагоня", а над ёй радкі зь верша М.Багдановіча. Дэвіз: "Жыве Беларусь!" Фармат — 1/4 аркуша.

*Друкаваліся матэрыялы нацыянальнага і палітычнага зьместу.*

* * *

Пасьля публікацыі ў "Шуфлядзе" папярэдніх частак Каталёгу пэрыядычных ды працяглых выданьняў Беларусі Архіў Найноўшае Гісторыі пачаў атрымліваць лісты ад нашых чытачоў з удакладненьнямі, прапановамі, а таксама з самімі выданьнямі. Усім нашым карэспандэнтам выказваем падзяку.

**Алег Дзярновіч**

*Пацьвярджэньне набыткаў:*

**Сьпіс асобаў, якія перадалі ў фонды Архіву Найноўшае Гісторыі новыя матэрыялы:**

**Сяргей Ёрш** *(Слонім)* — Белорусская трибуна.

**Алесь Капуцкі** *(Маладэчна)* — Бюлетэнь камітэта "Галасую за Беларусь"; Раніца *(Маладэчна)*.

**Севярын Квяткоўскі** *(Менск)* — Рокаш; Раніца *(Сеньніца)*.

**Невядомы** *(Ваўкавыск)* — Весткі.

*Архіў Найноўшае Гісторыі выказвае падзяку ўсім ахвярадаўцам.*

## Кніга — поштай

*На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць кнігі:*



1. **Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме... Зборнік інтымнае прозы.** – Менск: Сучасная літаратура, 1995. – 310 с. 40.000 БРБ
2. **Адам Глёбус. Скрыжаваньне.** – Менск: БАДППР – "Ковчег", 1993. – 46 с. 10.000 БРБ
3. **Юліяна Вітан-Дубейкаўская. Мае ўспаміны.** – Вільня, 1994. – 192 с. 24.000 БРБ
4. **Баляслаў Лесьмян. Пан Блішчынскі** / Пераклад з польскай. – Вільня-Менск: "Наша Ніва" – "Мастацкая Літаратура", 1994. – 93 с. 10.000 БРБ
5. **Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША.** – Менск, 1993. – 352 с. 25.000 БРБ
6. **Брэтон Ф., Пру С. Выбух камунікацыі.** – Менск: БФС – "Тэхналёгія", 1995. – 336 с. 24.000 БРБ
7. **Говард Майкал. Сучасная культурная антрапалёгія.** – Менск: БФС – "Тэхналёгія", 1996. – 486 с. 30.000 БРБ
8. **Лоўзі Дж. Гістарычныя ўводзіны ў філязофію навукі.** – Менск: БФС – "Тэхналёгія", 1995. – 328 с. 24.000 БРБ
9. **Энтані Сьміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі.** – Менск: БФС – "Эўрафорум", 1995. – 272 с. 20.000 БРБ
10. **Джын Эйчысан. Гаваркія істоты: Уводзіны ў псыхалінгвістыку.** – Менск: БФС – "Клін", 1995. – 312 с. 20.000 БРБ
11. **Браян М. Фэйган. Уводзіны ў археалёгію.** – Менск: БФС, 1996. – 272 с. 24.000 БРБ
12. **Беларускі рок-н-рол: Тэксты ("Бонда", "Крама", "Мроя", "Новае Неба", "Уліс").** – Менск: "Ковчег", 1994. – 64 с. 10.000 БРБ
13. **Беларускі вайсковы строй і зброя XII-XVIII ст.** Камплект каляровых паштовак (12 асобнікаў). – Менск: НВФ "Vaukalaka", 1996. 25.000 БРБ
14. **Беларускі гістарычны агляд.** 1996, т. 3, сшытак 1. 35.000 БРБ
15. **Ш.Дэбаш, Ж.-М.Пант'е. Уводзіны ў палітыку.** – Менск: БФС – "Эўрафорум", 1996. – 624 с. 35 000 БРБ
16. **М.Грыгор'еў. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі (1765-1794).** – Менск, 1994. – 168 с., каляровыя іл. 20 000 БРБ
17. **Z.Fedecki. Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі, czyli co śpiewano w Feliksowie.** – Warszawa, 1992. – 160 с.20 000 БРБ
18. **Юрг Штайнэр. Эўрапейскія дэмакратыі.** —Менск: БФС — "Лекцыя", 1996. — 343 с. 45.000 БРБ.
19. **Джон Бэрдшоў. Эканоміка. Ч. 1: Мікраэканоміка / Дапаможнік для студэнтаў.** — Менск: БФС — "Тэхналёгія", 1996. — 560 с. 50.000 БРБ.
20. **Ўэстан Ла Бар. Асабістасьць з псыхааналітычнага пункту гледжаньня.** — Менск: "Тэхналёгія", 1995. — 47 с. 15.000 БРБ.
21. **Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры). №1, 1996.** 35 000 БРБ.
22. **Жана Эрш. Філязофскае здумленьне: Гісторыя заходняе філязофіі.** — Менск: Эўрафорум-БФС, 1996.– 400 с. 35 000 БРБ.
23. **Унія: часопіс хрысьціянскага сумоўя. №4 — 1995.** — 48 с. 15.000 БРБ
24. **Жан-Батыст Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён (палітычнае жыцьцё і міжнародныя адносіны).** — Менск: БФС —»Крыніца», 1996. — 384 с. 25 000 БРБ.
25. **П'ер Брунэль, Клёд Пішуа, Андрэ-Мішэль Русо. Што такое параўнальнае літаратуразнаўства.** — Менск: БФС — "Эўрафорум", 1996. — 30 000 БРБ.
26. **Клаэс Г. Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё.** — Менск: БФС — БГАКЦ, 1996. — 30 000 БРБ.

*Зьвяртайцеся на адрас: Андрыеўскі Андрэй Паўлавіч, Менск 220094, а/с 89. У Менску да А.Андрыеўскага можна зьвярнуцца праз тэл. 239-78-49.*

## ● Новыя кніг, дасланыя ў рэдакцыю

**Арсеньнева Н. Яшчэ адна вясна: Выбр. вершы / Укл. і прадм. А.Сямёнавай; фота А.Клешчука.** — Менск: Маст. літ., 1996. — 271 с. — (Галасы беларускага замежжа) 1000 ас. ISBN 985-02-0086-3.

**Бабосов Е. Чернобыльская трагедия в её социальных измерениях.** — Менск: Право и экономика, 1996. — 151 с. 500 ас. ISBN 985-6194-45-8.

**Дэбіш В. Лісты ад Мары: Вершы / Прадм. Н.Мацяш.** — Менск: Маст.літ., 1996. — 118 с. — (Першая кніга паэта). 750 ас. ISBN 985-02-0273-4.

**Панютин В. Наёмный труд в сельском хозяйстве Беларуси. 1863-1914 г. / Под. ред. П.Петрикова** — Менск: Навука і тэхніка, 1996. — 142 с. ISBN 5-343-01352-Х.

**Родная літаратура: Падручнік-хрэстаматыя для 9 кл. / Аўт.-уклад. Г.Гарадко, У.Лебедзеў, В.Ляшук.** — Менск: "Асар", 1996. — 624 с.: іл. 187 150 ас. ISBN 985-6070-23-6.

**Тегако Л., Белоокая Т. Хиромантия без тайн.** — Менск: ПКП "БОФФ", 1996. — 88 с. 800 ас. ISBN 985-430-002-1.

**Философия: Учебное пособие / Под редакцией Н.Жукова — 3-е изд., испр. и доп.** — Менск: ООО "НТЦ АПИ", 1996. — 328 с. 5 000 ас. ISBN 985-6344-05-0.

**Цётка. Вершы / Уклад. В.Хлебавец; Прадм. А.Лойкі.** — Менск: Маст. літ., 1996. — 214 с.:іл. 1500 ас. ISBN 5-340-00589-5.

**Чарказян Г. Караваны гор: Лірыка. Пер з курд.** — Менск: Маст. літ., 1996. — 446 с. 1000 ас. ISBN 985-02-0203-3.

## НАВІНКІ




У сэрыі "Адкрытае грамадзтва" выйшла новая кніга:

**Клаэс Г. Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё: Філязофія палітыкі і супольнасьці.** – Менск: БФС – БГАКЦ, 1996.

Клаэс Рын праводзіць разьмежаваньне паміж дзьвюма формамі дэмакратыі. Аўтар выступае ў падтрымку канстытуцыйнай дэмакратыі, якая, на ягоную думку, лепшым чынам адпавядае патрабаваньням этычнага жыцьця. Паралельна гучыць абгрунтаваная крытыка плебісцытнай формы дэмакратыі, якая, надаючы паўнату ўлады большасьці, падрывае маральную прыроду чалавека.

## Касэты — поштай



*На складзе БГФ "Наша Ніва" ёсьць касэты (кошт — 30.000 БРБ):*

1. **НОВАЕ НЕБА.** Сон у трамваі.
2. **НОВАЕ НЕБА.** Go home (1995).
3. **НОВАЕ НЕБА.** Дзеці чорнага гораду (1991).
4. **КРАМА.** Камэндант (1995).
5. **КРАМА.** Хворы на Rock-n-Roll.
6. **КРАМА.** Гэй там налівай! (1994).
7. **N.R.M.** LaLaLaLa (1995).
8. **ULIS.** Life (1996).
9. **УЛІС.** Чужаніца (1991).
10. **УЛІС.** Краіна доўгай белай хмары (1990).
11. **БОНДА.** Найлепшыя песьні.
12. **МЯСЦОВЫ ЧАС.** Наша ўскраіна (1991).
13. **ПАЛАЦ.** Палац (1996).
14. **Песьні беларускіх бардаў** (1992).
15. **РЭНЭСАНС** (беларускі джаз).
16. **БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ.**
17. **БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА** (т.т. 1-4)
18. **БЕЛАРУСКАЯ ГІТАРНАЯ МУЗЫКА.**
19. **ЗАЛАТЫ ФОНД БЕЛАРУСКАГА РОК–Н–РОЛУ** (т.т. 1-5).

**Т.1:** Бонда. Уліс. Мроя. Рэй. Мясцовы Час. Блізьняты.
**Т.2:** Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае Неба. Мясцовы Час. Тутэйшыя хлопцы.
**Т.3:** Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & "Доктор Моро". Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо.
**Т.4**: Палац. Уліс. Крама. Новае Неба. Мроя.
**Т.5:** Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Red Dynamite. Флэт.

20. **МРОЯ**. Найлепшыя песьні з праграмаў 1987-90 г.
21. **УЛІС**. Блуканьне (1996).
22. **ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ**. Смутны беларускі блюз (1996).
23. **КАМЭЛОТ**. У краіне талераў (1995).
24. **ZINDAN** (1994).
25. **КРАМА**. The Best (1996).
26. **Андрэй Мельнікаў. Гэта – Мы!** (1996).
27. **NRM.** Одзірыдзідзіна (1996).
28. **ANDREJ MIELNIKAŬ.** Kamiani majho vohniśča (1991-1994).
29. **ANDREJ MIELNIKAŬ.** Pieśni vyhnańnia (1991-1993).
30. **ANDREJ MIELNIKAŬ.** Uspamin (1994-1995).
31. **ANDREJ MIELNIKAŬ.** Salam Saŭkam (1993).
32. **VALZYNA CIAREŠČANKA** (1991-1995).
33. **ЛІЦЬВІНЫ.** 5 сакавіка (1996).
34. **БЕЛАРУСКАЯ СЫМФАНІЧНАЯ МУЗЫКА** (1996).

*Зьвяртайцеся на адрас: 220094 Менск, а/с 89, Андрыеўскаму Андрэю Паўлавічу. У Менску да А.Андрыеўскага можна зьвярнуцца праз тэл. 239-78-49.*

## РАРЫТЭТ

Паведамленьне для аматараў "Нашай Нівы"

У рэдакцыі "Нашай Нівы" Вы можаце замовіць рарытэтныя нумары з моманту аднаўленьня газэты ў Вільні:

№1-4 за 1991 г., №6-8 за 1992 г., №10, 12-18 за 1993 г., №1, 2, 6, 8-9, 12 за 1994 г., №5-8 за 1995 г.

Ахвотныя могуць замовіць ксэракопію любога іншага нумару.

Кантакт: Андрэй Андрыеўскі — тэл. 239-78-49 у Менску; адрас: Менск 220094, а/с 89.

### ЛІТОЎСКІ СТАТУТ

У Менск завезеныя т.2 і т.3 віленскага акадэмічнага выданьня **Першага Літоўскага Статуту** 1529 г. Том другі ўяўляе сабой факсімільнае перавыданьне Статуту; том трэці — старабеларускі, старапольскі і лацінскі тэксты Статуту сучаснай графікай.

### ЛІТОЎСКАЯ МЭТРЫКА

У Менск завезеныя т.6 і т.8 **Літоўскае Мэтрыкі** — збору дакумэнтаў Вялікага Княства Літоўскага — выданьня цікавага як для спэцыялістаў, так і для аматараў гісторыі.

*Кантакт: Андрэй Андрыеўскі – тэл. 239-78-49 у Менску; адрас: Менск 220094, а/с 89.*

# ЦІ ТАЛЕНАВІТАЕ ВАША ДЗІЦЯ?

Канешне, усе бацькі лічаць, што іхняе дзіця самае лепшае, разумнае, таленавітае. І гэта правільна. Неталенавітых, ні да чаго ня здольных дзяцей проста няма, ня можа быць. Але вось зразумець, у якой менавіта галіне дзіця можа найбольш поўна раскрыць свае здольнасьці, не заўсёды атрымліваецца ў час, і магчымыя памылкі, расчараваньні.

Прапануем Вам тэст, складзены псыхолягамі для дзяцей 7-13 гадоў, ён дапаможа праверыць Вашыя ўласныя назіраньні і вызначыць, у чым менавіта таленавіты Ваш дзіця ад нараджэньня, да чаго яго цягне.

Не адчувайце сябе расчараваным, калі вынікі тэсту не адпавядаюць Вашым чаканьням: дзіця мяняецца, у яго ўсё наперадзе. І тым больш ня варта лічыць малога нечым асаблівым, калі вынікі будуць цудоўнымі.

Памятайце, наш тэст — не сур'ёзнае навуковае дасьледаваньне, а паўгульня, паўжарт. І ўсё-такі варта сябе праверыць!

Такім чынам, адкажыце "так" ці "не" на наступныя пытаньні.

Кожнае "так" дае адзін бал.

1. Ці здараецца дзіцяці знаходзіць незвычайнае прымяненьне нейкаму прадмету?

2. Ён мяняе свае схільнасьці?

3. Ці любіць маляваць абстрактныя карцінкі?

4. Ці любіць маляваць уяўныя прадметы?

5. Ці любіць фантастычныя гісторыі?

6. Ці складае апавесьці ці вершы?

7. Ці любіць выразаць цікавыя фігуры з паперы?

8. Ці зрабіў калі-небудзь тое, чаго ня ведаў, ці тое, чаго не існуе?

9. Ці бывае ў яго жаданьне што-небудзь перарабіць на свой густ?

10. Ці баіцца цемры?

11. Ці вынайшаў калі-небудзь новае слова?

12. Ці лічыў гэтае слова зразумелым без тлумачэньняў?

13. Ці спрабаваў перастаўляць мэблю на свой густ?

14. Ці была ўдалай гэтая задумка?

15. Ці выкарыстоўваў калі-небудзь рэч не паводле прызначэньня?

16. Ці магло Вашае дзіця зусім малым адгадваць значэньні розных словаў?

17. У выбары вопраткі ён кіруецца ўласным густам?

18. Ці ёсьць у яго ўнутраны сьвет, недаступны навакольным?

19. Ці шукае тлумачэньня таму, чаго не разумее?

20. Ці часта просіць патлумачыць незразумелыя зьявы?

21. Ці любіць чытаць кніжкі без ілюстрацыяў?

22. Ці вынаходзіць уласныя гульні і забавы?

23. Ці памятае і распавядае свае сны ці перажываньні?

Падсумуйце балы.

Ад 20 да 23 балаў. Вашае дзіця вельмі кемлівае, здольнае мець уласнае гледзішча на навакольнае, і варта дапамагаць яму ў гэтым.

Ад 15 да 19 балаў. Вашае дзіця не заўсёды выяўляе свае здольнасьці, ён знаходлівы і кемлівы толькі калі чым-небудзь зацікавіцца.

Ад 9 да 14 балаў. У дзіцяці назіраецца вялікая кемлівасьць, дастатковая для многіх галінаў ведаў, дзе неабавязковы ўласны погляд на рэчы. Аднак для заняткаў творчай дзейнасьцю шмат чаго не хапае.

Ад 4 да 8 балаў. Вашае дзіця праяўляе творчае мысьленьне толькі пры дасягненьні істотнай для яго мэты, ён больш схільны да практычнай дзейнасьці.

Менш за 4 балы. Дзіцяці не хапае вынаходніцтва, але яно можа дасягнуць посьпеху як добры выканаўца нават у складаных прафэсіях.

**КУПОН**

**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Імя і прозьвішча* ______

*Адрэса, тэлефон* ______

*Тэкст:* ______

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна.

**220123, Менск, а/с. 71** НАША НІВА








# Як абыграць Астапа Бэндэра



Каб Вас не падманулі, пры заключэньні дамовы з будаўнічай установай, раім Вам зьвярнуць увагу на некалькі момантаў. Калі Вы будзеце пасьлядоўнымі і патрабавальнымі, то хутчэй за ўсё не патрапіце ў непрыемную сытуацыю. Бо наўрад ці адшукаецца будаўнічая фірма, якая прадугледзіць усе Вашыя "страховачныя" пытаньні.

1. Дамова павінна быць заўсёды адной. На вытворчасьць усіх будаўнічых работ, якія плянуюцца, павінна быць заключаная адзіная дамова з дакладным указаньнем тэрмінаў іхняга заканчэньня. Інакш "паплыве" і агульная сума Вашых выдаткаў, і час будаўніцтва.

Раім зьвярнуць увагу: У сярэднім, аднапавярховы дом з мансардай (паўтары паверхі) агульнай плошчай 100 м2 будуецца "пад ключ" з улікам надвор'я каля 1,5 месяцаў.

2. Патрабуйце санкцыяў. У дамове павінны быць абавязкова ўказаныя штрафныя санкцыі да падрадчыка за парушэньне тэрмінаў будаўніцтва. Гэта неабходна, нават калі Вы перакананыя ў сумленнасьці будаўнікоў.

Раім зьвярнуць увагу: Тыповыя санкцыі — 1% у дзень ад кошту недаробак за кожны дзень пратэрміноўкі, пачынаючы з шостага. Пяць "лагавых" дзён даюцца на прастой пры магчымых неспрыяльных умовах надвор'я (пасьля заканчэньня кладкі і ўзьвядзеньня даху надвор'е на будаўніцтва не ўплывае).

3. Сьмета — вельмі важны дакумэнт. Уважліва пастаўцеся да сьметы працы і зафіксуйце агульны кошт у дамове. Сьмета павінна быць складзеная па этапах з указаньнем унутры кожнага этапу ўсіх відаў работ і іхняга кошту, а таксама кошту будматэрыялаў і дадатковых выдаткаў фірмы: накладных, плянавых, непрадбачаных і інш. Зьвярніце ўвагу на разьлік НДС.

Раім зьвярнуць увагу: Сярэдні кошт мэтра забудаванай плошчы пры правядзеньні агульнабудаўнічых работ на сёньня вагаецца каля адзнакі 400 даляраў. Кошт аздабленьня індывідуальны ў залежнасьці ад Вашых патрабаваньняў. Устройства аўтаномнай каналізацыі з чатырохмэтровым выграбным сыфонам не перавышае 2500 даляраў і залежыць ад аддаленасьці дома.

4. Правярайце ўсе кошты. Будаўнічая ўстанова разам з разьдзіманьнем уласных даходаў, як правіла, "накручвае", таксама на кошце работ і будматэрыялаў. Прычым, калі бягучы кошт апошніх агульнавядомы і Вы маеце магчымасьць таргавацца, то з коштам працаў складаней.

**НАШАЯ ПАРАДА**

Калі Вы адчуваеце сябе неспэцыялістам у гэтай галіне, то мае сэнс абмеркаваць расцэнкі са спэцыялістамі. У прыватнасьці, экспэртызу дапамогуць Вам правесьці ў таварыстве спажыўцоў.

5. Доля фірмы не павінна быць занадта важкай. Дамагайцеся, каб доля накладных і іншых выдаткаў фірмы не перавышала 35% ад агульнага кошту дамовы. Досьвед паказвае, што фірмы ідуць на зьніжэньне сваёй долі да 25%.

Раім зьвярнуць увагу: Пры разьліку гэтай лічбы памятайце, што выдаткі такога кшталту "накручваюцца" на ўсю папярэднюю суму (разьлік нарастальным вынікам): калі кошт работ і матэрыялаў склаў, напрыклад, 50 млн. руб., то накладныя выдаткі ў памеры 20% складуць яшчэ 10 млн. руб., а якія-небудзь "непрадбачаныя выдаткі" ў памеры 10% будуць разьлічвацца ўжо не ад 50, а ад 60 млн. руб.

Не забывайцеся на інфляцыю. У дамове пажадана зафіксаваць прывязку да якой-небудзь разьліковай адзінкі (базе). Як правіла, гэта курс даляра на момант заключэньня дамовы. Потым разьліковая адзінка будзе неабходная пры вызначэньні сапраўдных выдаткаў па этапах работ і ацэнцы кошту недаробак.

Калі ж такой прывязкі няма, а разьлікі адбываюцца ў рублях па бягучых коштах, то зьвярніце ўвагу на артыкул у дамове "разьвіцьцё базы". Гэты паказчык выкарыстоўваецца для індэксацыі выдаткаў: ён адлюстроўвае ўзровень росту коштаў на час дзеяньня дамовы, зь якім Вы пагаджаецеся, падпісваючы сьмету.

7. Разьлік любіць парадак. Зьвярніце ўвагу на парадак разьліку. Поўная перадаплата недапушчальная. Агульнапрынятым варыянтам ёсьць наступны. Заказчык у момант падпісаньня дамовы аплочвае 50% ейнага кошту. Далей, па заканчэньні кожнага этапу, кошт якога вызначаецца сьметай, выплочваецца ейная другая частка. Тады па заканчэньні будаўніцтва і падпісаньня акта здачы-прыёмкі за Вамі застаецца доўг у памеры паловы кошту апошняга этапу.

8. Будаўніцтва — гэта найперш улік. Па заканчэньні кожнага этапу патрабуйце падпісаньня акта, які пацьвярджае заканчэньне працы і ейную поўную аплату ("працэнтоўкі"). Майце на ўвазе, што калі падрадчык перавысіў сьмету выдаткаў пры захаваньні зацьверджанага аб'ёму работ, то гэта ягоныя страты, і патрабаваць ад Вас іхняй кампэнсацыі ён ня мае права. У выпадку скарачэньня аб'ёмаў працы па тым ці іншым этапе Вы мусіце заплаціць менш, чым меркавалася.

9. Дамову павінны падпісаць абодва бакі. Патрабуйце, каб будаўнічая фірма падпісала праект. Вас жа ў ім распісацца прымусяць абавязкова. У Вас на руках павінны застацца, як мінімум, арыгіналы дамовы, сьметы выдаткаў і праекту.

10. Давярай — але правярай! Вызначыце тэрміны правядзеньня кожнага этапу і ў пэрыяд будаўніцтва часьцей наведвайце "аб'ект". Тады Вы прасочыце адпаведнасьць рэальных аб'ёмаў работ і якасьці матэрыялаў — дамоўным.

Раім зьвярнуць увагу: Досьвед паказве, што на заключэньне дамовы, узгадненьне праекта і сьметы выдаткаў, а таксама прывязку да месца з выездам на мясцовасьць губляецца некалькі дзён і сьпешка тут недарэчная — Вы не галёшы купляеце.

